# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г. | Субота, 13 жніўня 1994 года | №84 (10784) | Цана 200 руб.

■ Заўтра — Дзень будаўніка

## СТАЎКА НА АРЫГІНАЛЬНАСЦЬ І КАМФОРТ

**Мы жывём сярод самых розных будынкаў, сучасных шматпавярховых і ўтульных вясковых, строгіх і аднатыпных жылых. Гэта— наша асяроддзе пражывання, якое фарміруюць архітэктары і будаўнікі. Менавіта імі ствараюцца прыгажосць і непаўторнасць ці, наадварот, безгустоўнасць і шэрасць.**

**Давайце прыглядзімся да твару пасёлкаў і гарадоў Міншчыны. Ці ёсць сярод іх адметныя ў дызайне, па якасці будаўнічага выканання, ступені захавання гістарычнай спадчыны? Гэтае пытанне карэспандэнт газеты адрасавала начальніку Галоўнага ўпраўлення архітэктуры і горадабудаўніцтва аблвыканкома Івану НЕКРАШЭВІЧУ:**

— Як спецыялісту, мне вельмі падабаецца Вілейка — маштабны, зялёны, вытрыманы ў адзіным архітэктурным стылі раённы цэнтр. Нясвіж таксама запамінаецца з першага знаёмства. Складаны для будаўніцтва горад Любань, які размешчаны на глыбінных залежах солі. Панельныя дамы тут нельга ўзводзіць, жыллё патрабуе грунтоўнага фундамента. На ўскраіне Любані плануецца будаўніцтва завода па вытворчасці соды /сыравіны для вырабу шкла/. Вытворчае будаўніцтва запатрабуе развіцця сацыяльна-культурнай сферы, аб"екты якой прызначаны для дабрабыту працоўных і ўзводзяцца не на год. Увогуле, стан горадабудаўніцтва адлюстроўвае пэўную гістарычную эпоху. Тым, што будуем зараз, карыстацца і любавацца нашым нашчадкам.

Мяняе свой выгляд Слуцк, першы горад у вобласці, які хутка разрастаецца — не шматпавярховымі забудовамі, а прывабнымі катэджамі. Дарэчы, за апошнія дзесяцігоддзі мы вельмі захапіліся вышыннымі пабудовамі. Узводзім іх, не звяртаючы ўвагі на асаблівасці той ці іншай мясцовасці. Напрыклад, недарэчна выглядае 9-павярховы жылы дом у Крупках, невялікім кампактным райцэнтры. Кожны вясковец, нават калі ён жыве ў кватэры з выгодамі, жадае трымаць жывёлу, апрацоўваць уласны зямельны ўчастак. А яго заганяюць на высокі паверх. Шматпавярховае жыллё можна будаваць у Маладзечне, Салігорску, Барысаве, Жодзіне. У невялікіх абласных гарадах і пасёлках — да пятага паверха, а самым зручным для сельскай мясцовасці лічыцца чатырохпавярховы дом. Горадабудаўніцтва арыентуецца на малапаверхавасць. У Фінляндыі, напрыклад, трэцяя частка структуры жыллёвага фонду прыпадае на прысядзібную малапавярховую забудову. У нашай рэспубліцы таксама карэкцconfigуюцца генпланы горадабудаўніцтва, распрацоўваюцца праекты з улікам прыярытэтнага развіцця малапавярховай забудовы. Індывідуальныя дамы пры гэтым будуць захоўвацца і мадэрнізавацца. Прадугледжваецца наступнае размеркаванне індывідуальнай прысядзібнай забудовы : у малых гарадах з колькасцю насельніцтва да 50 тысяч чалавек — каля 75 працэнтаў /было 15-30 працэнтаў/, сярэдніх гарадах, дзе пражывае да ста тысяч чалавек, —каля 50 працэнтаў /было ўсяго 5/. У вялікіх і буйных гарадах катэджам адводзіцца 15 працэнтаў, прычым будуць ствараць магчымасці для будаўніцтва добраўпарадкаваных аднасямейных дамоў з зямельнымі ўчасткамі.

З першага ліпеня гэтага года ўступіў у сілу Закон "Аб асновах архітэктурнай і горадабудаўнічай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь". Закон устанаўлівае прававыя асновы рэгулявання архітэктурнай і горадабудаўнічай дзейнасці і накіраваны на фарміраванне паўнацэннага асяроддзя пражывання, захаванне прыродных багаццяў і гістарычна-культурнай спадчыны. Наша ўпраўленне прымала ўдзел у распрацоўцы праекта Закона "Аб захаванні і рацыянальным выкарыстанні Нарачанскага прыроднага комплексу". Інтэнсіўная гаспадарчая дзейнасць чалавека спустошыла унікальны куток нашай роднай старонкі, парушыла экалагічную ўстойлівасць прыроднага асяроддзя. Прыняцце спецыяльнага Закона, які мае вышэйшую юрыдычную сілу, дазволіць вызначыць прававыя асновы карыстання тэрыторыямі Нарачанскага комплексу і забяспечыць тым самым захаванне і развіццё курортнага рэгіёна рэспублікі.

*Запісала Наталля ШМІДТ.*

■ УРАДЖАЙ-94

## "ДОНЫ" ЁСЦЬ "ДОНЫ"

*Абнаўленне асноўных сродкаў нельга адкладваць на гады*

У РАЗГАРЫ ЖНІВО, і сёлета значна вастрэй, чым у мінулыя гады, перад хлебаробамі вобласці стаіць задача: убіраць хутка, убіраць якасна.

Чым гэта абумоўлена, — вядома, бадай, кожнаму. Засуха істотна — на 8—9 цэнтнераў з гектара — панізіла ўраджаі зерня. Значыць, валавыя зборы яго сёлета як ніколі залежаць ад чысціні вымалоту кожнага коласа, недапушчэння страт пры рабоце камбайнаў, пры перавозках і г.д. Бо зерне — гэта не толькі наш хлеб. Гэта — корм для жывёлы. Гэта, у рэшце рэшт, — грошы калгасаў і саўгасаў. І яшчэ. Жніво, праведзенае ў сціслыя тэрміны, — гэта магчымасць своечасовай сяўбы пажніўных культур, роля якіх у кармавым балансе сёлета неверагодна ўзрастае. Гэта магчымасць хуткай уборкі з палёў саломы, правядзення ранняга лушчэння ржышча, своечасовай падрыхтоўкі глебы пад азімыя культуры наступнага года.

Задача надзвычай складаная. /Дарэчы, перад хлебаробамі з той ці іншай ступенню вастрыні яна паўстае кожнае лета/. І мы не збіраемся даваць спецыялістам гаспадарак нейкія рэцэпты яе вырашэння. Хочацца толькі звярнуць увагу на наступную акалічнасць.

У свой час, калі сталі паяўляцца першыя экземпляры камбайна "Дон-1500", у калгасах і саўгасах, як гэта заўсёды бывае ў такіх выпадках, да навінкі ставіліся даволі крытычна. Машына здавалася занадта груваcткай. Сёй-той знаходзіў у ёй нейкія канструкцыйныя недапрацоўкі. Таму, праяўляючы асцярожнасць, кіраўнікі гаспадарак набылі толькі па аднаму-два "Доны". Мала хто асмеліўся раскашэліцца на 4—5 машын. А некаторыя, як, напрыклад, кіраўніцтва саўгаса "Бараўляны" Мінскага раёна, палічылі за лепшае ўвогуле не спяшацца і прыглядзецца да суседзяў.

Суседзі ж таксама па-рознаму ставіліся да навінкі. Напрыклад, кіраўніцтва саўгаса "Рагаўскі" ў свой час палічыла за лепшае ўстрымацца ад набыцця "Донаў", хаця спецыялісты раённага ўпраўлення сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання прапаноўвалі набыць некалькі машын, бо яны свабодна прадаваліся на складах "Аблаграпрамзабеспячэння".

Іншыя меркаванні мелі кіраўнікі і інжынеры калгасаў "Вішнёўка", імя Гастэлы, Ждановіцкага цяплічнага камбіната, саўгаса імя Ульянава. Гастэлаўцы, напрыклад, у перыяд да 1991 года набылі 11 "Донаў", хлебаробы "Вішнёўкі" — 12. У саўгасе імя Ульянава іх цяпер 4. /Поруч з імі ў гэтай гаспадарцы працуюць яшчэ 13 "Ніваў"/.

Саўгас імя Ульянава мы і наведалі разам з намеснікам начальніка райсельгасхарча па механізацыі А.С.Блізнюком. Дырэктар гаспадаркі М.Ф.Чэрнік расказаў:

— Розніца ў рабоце "Донаў" і "Ніваў" вельмі адчувальная. Мяркуйце самі. Учора ўсе нашы камбайны разам намалацілі 217 тон збожжа. Дык вось, чатыры "Доны" выдалі са сваіх бункераў амаль палавіну гэтага намалоту — 90 тон. Такая ж розніца і ва ўбранай плошчы. Калі на "Ніве" за дзень можна скасіць 4—5 гектараў, то камбайнеры на нашых "Донах" штодзённа ўбіраюць не менш як па 10. А якасць уборкі?.. "Ніва" не ідзе ні ў якое параўнанне з "Донам". Словам, у бліжэйшыя год-два парачку камбайнаў гэтай маркі трэба будзе яшчэ набыць.

Як бачым, наяўнасць у гаспадарцы 10—12 "Донаў" дазваляе ўдвая хутчэй правесці жніво, да мінімуму скараціць страты ўраджаю. Значыць, камбайн "Дон-1500" — гэта тая тэхніка, пры дапамозе якой можна вырашыць і сёлетнюю праблему, якую паставіла перад хлебаробамі засуха.

Расказ дырэктара саўгаса імя Ульянава М.Ф.Чэрніка мы прывялі яшчэ і па наступнай прычыне: як паведаміў А.С.Блізнюк, цяпер у гаспадарках раёна налічваецца 354 камбайны. Сярод іх "Донаў" толькі 82. Але менавіта таму, што апошнім часам гаспадаркі раёна практычна не абнаўляюць свой машынна-трактарны парк, праблема зношанасці тэхнікі перарастае ў адну з найвастрэйшых. Рамантаваць такую тэхніку гаспадаркі не маюць за што, набываць новую — тым больш. А без высокапрадукцыйных прылад працы чалавек не здольны штонебудзь зрабіць не тое што для грамадства, а нават для сябе.

І вось сітуацыя: каб пазбавіцца тых камбайнаў, якія звычайна больш рамантуюцца, чым працуюць, калгасы і саўгасы раёна кожны год цяпер павінны набываць 25 новых машын. Але гэта патрабуе /па сённяшніх цэнах — гаворка ідзе пра "Доны"/ звыш 30 мільярдаў рублёў. Выкласці такія грошы гаспадаркі не ў стане. Вось чаму сёлета толькі саўгасы "Волма" і імя Энгельса набылі па аднаму "Дону".

А, напрыклад, саўгас "Бараўляны" па-ранейшаму вядзе жніво на сваіх латаных-пералатаных "Нівах".

— І не таму, што мы не разумеем пераваг "Дона" перад "Нівай", — гаворыць дырэктар гаспадаркі Я.Я.Парашчанка. — А таму, што, каб набыць гэты камбайн, нашаму калектыву цяпер трэба год працаваць, не набываючы ні паліва, ні запчастак, ні мінеральных угнаенняў.

Але ж і без абнаўлення камбайнавага парку /а разам — і ўсіх асноўных сродкаў/ саўгас далей не зможа жыць. І тут паўстае праблема, якую, у рэшце рэшт, павінны вырашыць парламент рэспублікі разам з урадам, — даць магчымасць такім гаспадаркам, як саўгасы "Рагаўскі" і "Бараўляны", самім зарабляць грошы, каб можна было набываць не толькі бензін ды салярку, але і па аднаму-два "Доны" ў год.

*Іван АБАБУРКА,*
*аглядальнік "Мінскай праўды".*

*Актыўна ідзе ўборка льну ў калгасе "За ўладу Саветаў" Маладзечанскага раёна. Ён пасеяны ў гаспадарцы на плошчы 80 гектараў.*
*НА ЗДЫМКАХ: церабленне льну і аддзяленне галовак ад ільносаломкі; ветэран гаспадаркі — трактарыст Уладзімір Сцяпанавіч* ***Ашмянскі.***

*Фота Анатоля БАСАВА.*

## ПОДУМАЕМ О НОВОМ УРОЖАЕ

Хозяйства области убрали зерновое поле на 273 тысячах гектаров. Это на 41,2 тысячи гектаров больше, чем на эту дату в прошлом году.

Как и прежде, хорошие намолоты зерна получают хозяйства Несвижского, Клецкого, Смолевичского, Слуцкого районов. Однако в целой группе колхозов и совхозов урожаи, к сожалению, низкие. В совхозе "Селява" Крупского, колхозах имени Кирова Пуховичского, "Гайна" и "Янушковичи" Логойского районов гектар дает всего 10—18 центнеров зерна. Поэтому всем хозяйствам необходимо уделить особое внимание качеству уборки и подготовке зерна к сдаче государству. Как можно больше необходимо реализовать его сортовыми семенами, пивоваренным. Ведь надбавка к цене за такое зерно весомая. К примеру, закупочная цена тонны пивоваренного ячменя на 900 тысяч рублей больше, чем рядового, тонны пшеницы с содержанием клейковины свыше 23 процентов — на 1 миллион 350 тысяч рублей больше, чем с содержанием клейковины до 18 процентов.

Учитывая условия этого года, распоряжением Кабинета министров от 8 августа разрешена, в порядке исключения, приемка от хозяйств пивоваренного ячменя с отступлениями от ГОСТа по крупности, содержанию мелкого зерна и белка. Это позволяет хозяйствам выполнить договорные обязательства по поставке пивоваренного ячменя и получить дополнительные средства.

Из трав первого укоса по области заготовлено 51 процент кормов к плану. Три района имеют запасы травянистого фуража менее 6 центнеров кормовых единиц на условную голову, а 15 колхозов и совхозов вообще по 2—3 центнера.

Важным источником кормов является солома. Поэтому необходимо максимально использовать все комбайны с измельчителями. Закладывая в траншеи, измельченную массу надо смачивать, добавлять ржаную муку, сыворотку, кормовую соль. Засилосованной соломы необходимо заготовить побольше, потому что однолетних и силосных культур будет недобор.

Пересушенная почва самоуплотняется, и поэтому нельзя медлить с ее обработкой и подготовкой к севу озимых. Эту работу надо выполнить не позднее чем за две недели до посева. Однако в хозяйствах Березинского, Борисовского, Вилейского, Минского, Пуховичского районов почва готовится очень медленно, что может создать серьезную угрозу озимым культурам при их перезимовке.

По технологическим требованиям обязательным приемом является внесение осенью под озимые полных доз фосфорных и калийных удобрений. Для этого хозяйствам необходимо 37,2 тысячи тонн действующего вещества, а имеется его всего 40 процентов к потребности. Если колхозы и совхозы Несвижского района полностью обеспечены ресурсами минеральных удобрений под озимые, то хозяйства Узденского, Логойского, Крупского, Вилейского и Воложинского районов — всего лишь на 10—17 процентов.

В этом году возникли трудности с созданием семенного фонда как яровых, так и озимых культур. Поэтому для посева озимых зерновых необходимо полностью использовать оставшийся переходящий фонд прошлого года.

Уже подтверждено фактами, что у нас можно выращивать пшеницу, пригодную для выпечки качественного белого хлеба. Так, из урожая текущего года продают государству зерно пшеницы с содержанием клейковины 24—25 процентов колхозы "Советская Белоруссия" Клецкого, имени Чкалова Солигорского, имени Тельмана Слуцкого районов и другие.

На наших почвах сборы зерна пшеницы с гектара не уступают другим зерновым. К примеру, в этом году в колхозе "Ленинский путь" Слуцкого района каждый гектар озимой пшеницы сорта "копылянка" дал по 49, сорта "центос" — по 45 центнеров зерна с гектара с высокими хлебопекарными качествами. Хозяйства, нуждающиеся в семенах озимой пшеницы, могут обращаться в райсельхозпроды или областное объединение по семеноводству сельхозкультур (тел.24-40-69).

*Николай МАХНАЧ,*
*главный агроном облсельхозпрода.*

## ИНФОРМАЦИЯ

### облсельхозпрода о ходе сельхозработ в колхозах и совхозах области на 12 августа т.г.

Графы: 1 — районы, 2 — скошено зерновых /в проц. к уборочной площади/, 3 — урожайность зерновых /цент. с гектара/, 4 — подготовлено почвы под озимые / в проц. к плану/, 5 — убрано соломы /в проц. к скошенному/.

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Березинский | 43 | 23,4 | 3 | 46 | Мядельский | 33 | 22,4 | 10 | 36 |
| Борисовский | 41 | 25,4 | - | 39 | Несвижский | 87 | 36,5 | 14 | 67 |
| Вилейский | 43 | 25,1 | 9 | 62 | Пуховичский | 44 | 26,5 | 18 | 47 |
| Воложинский | 38 | 22,9 | 13 | 56 | Слуцкий | 61 | 30,0 | 18 | 42 |
| Дзержинский | 36 | 28,5 | 15 | 59 | Смолевичский | 42 | 33,3 | 15 | 62 |
| Клецкий | 88 | 30,6 | 20 | 71 | Солигорский | 66 | 26,6 | 9 | 46 |
| Копыльский | 76 | 29,0 | 23 | 73 | Стародорожский | 60 | 21,4 | 19 | 67 |
| Крупский | 29 | 21,4 | 11 | 26 | Столбцовский | 67 | 30,0 | 3 | 47 |
| Логойский | 33 | 21,9 | 22 | 52 | Узденский | 53 | 24,5 | - | 48 |
| Любанский | 72 | 22,9 | 16 | 58 | Червенский | 53 | 28,4 | 19 | 55 |
| Минский | 25 | 29,4 | 2 | 31 | | | | | |
| Молодечненский | 50 | 31,0 | 19 | 60 | По области | 52 | 27,6 | 13 | 54 |

## ПРЭЗІДЭНТ ПРАДСТАВІЎ ДЭКЛАРАЦЫЮ АБ СВАІХ ДАХОДАХ

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка прадставіў дэкларацыю аб сваіх даходах для публікацыі яе ў сродках масавай інфармацыі. Як вынікае з дэкларацыі, Прэзідэнт не мае ўласнасці ў выглядзе прадпрыемстваў, жылых памяшканняў і іншай нерухомай маёмасці, зямельных участкаў. З красавіка 1985 года сям"я Лукашэнкі жыве ў пасёлку Рыжкавічы Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці ў службовым доме, карысная плошча якога — 55 квадратных метраў, з надворнымі пабудовамі і прысядзібным участкам 0,25 гектара. На час работы на пасадзе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь яму прадастаўлена службовая рэзідэнцыя ў Мінску.

Грашовы ўклад Прэзідэнта ў Шклоўскім раённым аддзяленні Ашчаднага банка складае 16 тысяч 64 рублі і 21 капейку. Укладаў у іншых банках, акцый і іншых каштоўных папер Прэзідэнт не мае, таксама як не мае сваёй долі ў статутных фондах суб"ектаў гаспадарання. Наяўныя сродкі Прэзідэнта не перавышаюць межаў заработнай платы, якая з мая па ліпень 1994 года склала 1.602.631 рубель. Іншых крыніц даходаў, якія падлягаюць падаткаабкладанню, Прэзідэнт не мае.

Прадстаўляючы дэкларацыю аб сваіх даходах, Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што ўласнасць і даходы Прэзідэнта, іншых вышэйшых службовых асоб дзяржавы будуць заўсёды даступныя для кантролю, а публікацыя гэтай дэкларацыі дае права любым грамадскім аб"яднанням, партыям, прыватным асобам праверыць праўдзівасць прадстаўленых звестак.

*БЕЛІНФАРМ.*

## ДА ВЕДАМА ДЭПУТАТАЎ АБЛАСНОГА САВЕТА І НАСЕЛЬНІЦТВА ВОБЛАСЦІ

**Прэзідыум абласнога Савета дэпутатаў паведамляе, што 15 верасня 1994 года ў 10.00 пачне работу XVII сесія абласнога Савета дэпутатаў, на разгляд якой уносіцца пытанне: "Аб рабоце выканкома па стабілізацыі эканомікі і ўкараненню рыначных адносін у аграпрамысловым комплексе вобласці".**

**Вашы заўвагі і прапановы па пытанню парадку дня сесіі накіроўвайце ў рэдакцыю газеты "Мінская праўда" і ў абласны Савет дэпутатаў па адрасу: г.Мінск, вул.Энгельса, 4.**

**Сесія адбудзецца па адрасу: г.Мінск, вул.Чкалава, 5.**



## ЦЭНЫ АДПУШЧАНЫ

11 жніўня павялічыліся цэны на некаторыя віды прадуктаў харчавання, вытворчасць якіх была стратная для дзяржавы, дацыравалася з бюджэту. Так, бутэлька малака ці кефіру 2,5-працэнтнай тлустасці каштуе пакупніку без пасуды 1.400 рублёў, 3,2-працэнтнай тлустасці — 1.600 рублёў. За бутэльку вяршкоў прыйдзецца заплаціць ад 4.400 да 5.000 рублёў. Кілаграм смятаны каштуе цяпер ад 18.300 да 21.600 рублёў. За такую ж колькасць тварагу вышэйшага гатунку неабходна "выкладваць" 14 тысяч рублёў.

Цяпер хлеб "беларускі" каштуе 3.900 рублёў, "нарачанскі" — 6.960 рублёў, батон звычайны — 3.010 рублёў, булка "вясковая" — 3.760 рублёў, сайка з разынкамі — 2.270 рублёў.

*(Наш кар.).*

## КУРЫ Ў ДЭФІЦЫЦЕ

— Ненадоўга, — гаворыць галоўны эканаміст птушкафабрыкі імя Крупскай Леанід Андрэевіч Шаплыка. — Пакуль што не працавалі забойныя цэхі на птушкафабрыцы: былі на рамонце. З сярэдзіны жніўня яны будуць працаваць на поўную магутнасць.

Зараз птушкагадоўля знаходзіцца ў складаным становішчы. Мільярдныя крэдыты цяжкім грузам вісяць на плячах работнікаў. Не хапае грошай, каб выплаціць людзям зарплату. Неабходна дзяржаўная падтрымка птушкагадоўлі.

*Ірына АНДРЭЕВА.*

